№15 (160)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Лістапад 2013 г.

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

Ад 1 лістапада павысілісь кошты на газ, цеплаэнэргію і электаэнергію для насельніцтва.

Адпаведныя змены прадугледжаныя пастановай Саўміна №941 ад 30 кастрычніка 2013 года.

Нагадаем, з 1 кастрычніка кошты на газ для насельніцтва ўжо былі павышаныя на 12,7-32%.

Тарыфы на электраэнергію сёлета падвышаюцца шосты раз. Ад 1 студзеня яны павялічыліся на 9,5%, з 1 лютага — на 18%, з 1 чэрвеня — на 15,7%, з 1 жніўня — на 14%, з 1 верасня — на 11,8%.

Таксама з 10 лістапада ў Беларусі істотна падаражэе праезд на чыгунцы.

### У Прыдняпроўі

Могилевская область имеет самый низкий показатель прибыльности среди регионов. Чистая прибыль за девять месяцев нынешнего года составила 2,1 триллионов рублей. Тогда как лидирующая Гомельская область заработала 6,3 миллиарда.

В Могилевской области особенно плохо себя показали Кричевский и Шкловский районы: их убыток составил -37 миллиардов и -2 миллиарда рублей соответсвенно.

### У раёне

Па інфармацыі раённага аддзела ЗАГС за 9 месяцаў бягучага года ў Прыдруцкім краі нарадзілася 181 дзіця. За аналагічны перыяд мінулага года на свет з'явілася 187 новых бялынічан.

Сёлета ў студзені-верасні ў раёне ўступілі ў шлюб 141 пара, летась за такі ж прамежак часу зарэгістравана 110 шлюбаў. Сёлета скасавана 46 шлюбаў, у мінулым годзе – 67.

За 9 месяцаў 2013 года з жыцця пайшлі 342 чалавекі. За адпаведны перыяд леташняга года памерла 333 жыхары Бялынíччыны.

На жаль, памірае людзей у Бялыніцкім раёне па-ранейшаму нашмат больш, чым нараджаецца...

# АБ МІЛЬЯРДАХ, АГРАГАРАДКАХ І САЦЫЯЛЬНЫХ СТАНДАРТАХ

***Ідэя дадзенага артыкула ўзнікла ў мяне па шэрагу прычынаў. Па-першае, з вынікаў паездак у апошні час па шматлікіх рэгіёнах нашай краіны і сустрэчаў з грамадзянамі. І па-другое, як рэакцыя на словы Лукашэнкі, выказаныя ім падчас кадравых прызначэнняў 22 кастрычніка — аб чакаемай у бліжэйшы час маштабнай праверцы аграрнага сектара, у які, па яго словах, за апошнія дзве з паловай пяцігодкі ўкладзена больш чым 50 мільярдаў долараў.***




За няпоўныя трынадцаць год у сельскую гаспадарку ўкладзены бюджэтныя сродкі, што адпавядаюць па аб'ёму гадавому валавому унутранаму прадукту краіны.

І толькі зараз, праз столькі год, кіраўнік дзяржавы, звяртаючыся да новапрызначаных кіраўнікоў рэгіёнаў, нарэшце, звярнуў увагу і завёў гаворку аб эканамічнай і фінансавай эфектыўнасці сельскай гаспадаркі: "…Але мяне катэгарычна не задавальняе тая эканамічная і фінансавая эфектыўнасць, якая сёння складваецца ў гэтай сферы. Пара навучыцца жыць па сродках. Ёсць грошы жывеш, не — шукай ці будзеш хадзіць без зарплаты… Уся вытворчасць, яе эфектыўнасць, аграгарадкі і іншая сацыяльная інфраструктура, якая павінна функцыянаваць як трэба, — ваша зона адказнасці. Таму вы, а таксама вашы калегі, думайце, як будзеце працаваць і зарабляць грошы"…

У час сустрэчаў з жыхарамі сельскіх населеных пунктаў Беларусі мне прыйшлося пачуць розныя выказванні пра якасць пабудаваных на сяле вытворчых аб'ектаў і жылых дамоў, пра так бы мовіць сучасную сельскагаспадарчую тэхніку, пра стан сацыяльнай інфраструктуры аграгарадкоў.

Прапаную пакінуць сёння па-за ўвагай тэму якасці будаўніцтва

*(Заканчэнне на стар. 2)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# АБ МІЛЬЯРДАХ, АГРАГАРАДКАХ І САЦЫЯЛЬНЫХ СТАНДАРТАХ

*(Заканч. Пачатак на стар. 1)*

жылля і абектаў, а таксама стан сельскагаспадарчай тэхнікі. Аб гэтым ужо шмат гаворана-перагаворана, ды ўсё роўна зрухаў да лепшага як не было, так і няма. Я хачу звярнуць увагу на стан сацыяльнай інфраструктуры аграгарадкоў, або, як выказваецца match рознае чынавенства, на забеспячэнне сацыяльных стандартаў.

Як забяспечваюцца сацыяльныя стандарты ў беларускіх аграгарадках прапаную разгледзець на прыкладзе аграгарадка Цяхцін Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці, дзе пражывае каля тысячы чалавек.

Чаму менавіта гэтага населенага пункта? А таму, што гэта мая родная вёска, і, нярэдка, прыязджаючы да бацькоўскай хаты, мне ўдаецца паразмаўляць і з рознымі жыхарамі. Размаўляюць са мной землякі без баязні негатыўных наступстваў.

Таму пра сітуацыю ў вёсцы і ў ААТ "Новая Друць", цэнтральнай сядзібай якой з'яўляецца Цяхцін, я ведаю лепш, чым пра іншыя гаспадаркі, дзе мне даводзілася пабываць. Ды хочацца яшчэ дапамагчы землякам і агучыць тыя праблемы, на якія ні мясцовыя ўлады, ні раённая вертыкаль не звяртаюць увагу ўжо шмат гадоў.

Мае землякі ўжо змірыліся з адсутнасцю ў вёсцы Камбіната бытавога абслугоўвання (дабротны будынак некалькі год таму мясцовыя ўлады знеслі) і вулічнага асвятлення. Яны ўжо звыкліся з няякасна пакладзенымі тратуарамі, на якія патрачаны мільярды рублёў. А ў некаторых месцах імі проста немагчыма карыстацца.

Праблемы вяскоўцаў, пра якія я хачу расказаць, крыюцца ў якасці працы паштовага аддзялення і вясковай ашчаднай касы. Ужо колькі часу адзінае паштовае аддзяленне працуе з перабоямі, што вельмі нязручна для вяскоўцаў, асабліва жыхароў дзвюх дзесяткаў аддаленых вёсак.

А сітуацыя з ашчаднай касай выглядае проста анекдатычнай. Колькі год таму працаўнікі "Новай Друці" былі пераведзены на выплату заработнай платы праз банкаўскія пластыкавыя карткі. Але за гэтыя гады ў вёсцы не ўсталяваны ні банкамат, ні адладжана праца ашчадкасы, размешчанай у будынку пошты. Ашчадкаса працуе, як пажадае раённае кіраўніцтва банка, графік працы ўвесь час мяняецца. Ад трох раз на тыдзень (па чатыры гадзіны ў дзень) — да аднаго раза на тыдзень. А доўгі час каса была зусім зачынена. І каб атрымаць заробкі, або іншую паслугу, сотням працаўнікоў сельгаспрадпрыемства, жыхарам аграгарадка і суседніх вёсак прыходзіцца ездзіць за два дзесяткі кіламетраў у раённы цэнтр.




Вось такі сацыяльны стандарт чынавенства прыдумала для вяскоўцаў.

Не на належным узроўні паказчыкі па наяўнасці і якасці сацыяльных стандартаў і ў іншых рэгіёнах краіны. У 2010 годзе КДК Беларусі адзначаў, што ва ўсіх абласцях краіны не дасягнуты неабходны ўзровень жыцця вяскоўцаў. З тае пары прайшло тры гады, а сітуацыя не палепшылася, а наадварот, стала яшчэ горшай.

Дык куды ж патрачаны дзесяткі мільярдаў долараў? І праўда, трэба, нарэшце, праверыць.

Таму перадаю Аляксандру Рыгоравічу і іншаму чынавенству прапанову сваіх землякоў, каб такую праверку распачаць менавіта з іх гаспадаркі — ААТ "Новая Друць" Бялыніцкага раёна. І яшчэ, мае землякі прасілі, каб інфармацыя аб выніках праверкі была даведзена ім на агульным сходзе працаўнікоў ААТ.

***Намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў***

## ЗАРПЛАТА РАСТЁТ?

По информации белыничских статистиков номинальная начисленная среднемесячная заработная плата работников организаций Белыничского района в январе-сентябре 2013 г. составила 4 148,1 тыс. рублей, в том числе в сентябре – 4 470,6 тыс. рублей. Реальная заработная плата (заработная плата, рассчитанная с учетом роста потребительских цен на товары и услуги) в январе-сентябре 2013 г. по сравнению с соответствующим периодом 2012 г. увеличилась на 18,5 %, в сентябре по сравнению с сентябрем 2013 г. – на 10,9%.

В бюджетных организациях района средняя заработная плата в сентябре составила 3 792,8 тыс. рублей и возросла по сравнению с августом 2013 г. на 9% или на 311,8тыс. рублей.

# В БЕЛЫНИЧАХ ПРОТЕСТУЮТ ПРОТИВ ПОВЫШЕНИЯ СТОИМОСТИ СТРОИТЕЛЬСТВА ДОМА

***В конце октября и начале ноября члены потребительского жилищно-строительного кооператива «Друть-2010» провели несколько общих собраний, на которых обсуждали вопрос о резком повышении стоимости строительства квадратного метра жилья в строящемся для них доме.***

Люди недовольны тем, что стоимость квадратного метра, которая на момент начала строительства составляла 5 640 000 рублей, в октябре 2013 года, без внятного объяснения причин, была увеличена до 7 650 000 рублей.

По итогам собраний члены ПЖСК «Друть-2010» подписали и направили в целый ряд государственных инстанций заявления и коллективные обращения, в которых просят: разобраться с махинациями и необоснованным завышением стоимости квадратного метра строящегося дома; провести проверку качества строительных работ по объекту: 60 квартирный жилой дом ПЖСК «Друть -2010» в г. п. Белыничи по ул. Строителей, 17, а также провести проверку на соответствие объёмов строительства, согласно актам выполненных работ.

Помощь в подготовке необходимых обращений членам кооператива оказали белыничские активисты «Говори правду».

По словам членов кооператива, они были вынуждены обратиться в вышестоящие инстанции, так как не нашли поддержку со стороны местной власти, которая не стоит за интересы своих граждан и помогает транжирить государственные деньги, предназначенные для строительства жилья на льготных условиях.

Согласно рассказов членов кооператива, ПЖСК «Друть-2010» был создан в ноябре 2010 года. Проектно-сметная документация на дом была изготовлена в базисных ценах 2006г. и прошла государственную экспертизу в августе 2011 года. В связи с приостановкой кредитования в 2011 году, строительство дома было приостановлено. В четвёртом квартале 2012 года строительство дома было возобновлено и на момент начала строительства (ноябрь 2012г.) стоимость квадратного метра в текущих ценах составляла




5.640.000 белорусских рублей. В начале октября 2013 года КУП «Белыничский Капстрой» была рассчитана стоимость квадратного метра на конец строительства – 7.650.000 белорусских рублей. Такое увеличение цены квадратного метра было обосновано увеличением корректирующими коэффициентами.Также члены кооператива обращают внимание контролирующих органов на то, что КУП «Белыничский Капстрой», работая за их деньги, не ведёт ни какого контроля за качеством выполнения строительных работ. Также завышаются объёмы выполняемых работ.

Сами члены ПЖСК Друть-2010» отмечают, что в состав кооператива входят многодетные, малоимущие и молодые семьи. Резкий подъём стоимости квадратного метра сделает многих членов кооператива неплатёжеспособными, а остальных поставить на грань голодного выживания, учитывая невысокую заработную плату по Белыничскому району.

Белыничский активист кампании «Говори правду» Николай Метелица говорит, что люди намерены отстаивать свою правоту и добиваться справедливости, они просто не видят иного выхода.

Активисты также отмечают, что сейчас власти Могилёвской области стремятся ввести в эксплуатацию все проблемные дома, которые находятся на контроле согласно поручения руководителя государства Александра Лукашенко. В связи с этим власти Белыничского района хотят подписать документы на ввод в эксплуатацию дома по улице Строителей, 17 как можно скорее, несмотря на то, что строительные работы в здании окончательно не завершены.

Как отметил на заседании облисполкома первый заместитель председателя комитета по архитектуре и строительству Могилевского облисполкома Игорь Можаровский, в Могилевской области по состоянию на начало ноября введено в строй 16 проблемных многоквартирных жилых домов из 22.

По словам Игоря Можаровского, на сегодняшний день средняя стоимость квадратного метра жилья составляет по Могилёвской области в среднем порядка Br5,6 млн.

***Ирина Беганкина***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

## КТО ВИНОВАТ В ТОМ, ЧТО ПУСТЕЮТ ВАЛЮТНЫЕ ЗАКРОМА?

***В настоящее время, чтобы погасить набранные долги, Беларусь ежемесячно выплачивает кредиторам сотни миллионов долларов. Валютные сбережения страны заметно уменьшаются, а обменные курсы переписываются практически каждый день. Даже не верится, хотя и помнится, что каких-то три года назад банкир Прокопович обещал Лукашенко, что к 2015 году белорусский рубль станет свободно конвертируемой мировой валютой. Наверное, Пётр Петрович сглазил наш хлипкий «зайчик», ведь рубль с трудом пережил грянувшую девальвацию, а теперь вновь готовится к предстоящим финансовым потрясениям. И кто тут, спрашивается, виноват?***

Поиск виновников и тогда и сейчас был недолгим. В прошлый раз в 2011 году президент публично обвинил белорусских граждан в обвале внутреннего валютного рынка. По его мнению, население ради покупки автомобилей за рубежом вывезло валюту из страны и спровоцировало девальвацию. Как пояснил Лукашенко, это было связано с ажиотажным ввозом подержанных автомобилей гражданами Беларуси в преддверии повышения ввозных таможенных пошлин с 1 июля: «До 1 июля наше население пыталось ввезти этот хлам», а это вызвало «отток трёх миллиардов долларов из страны». «Это те три миллиарда, которых нам, кстати, и не хватило», - заявил Лукашенко, объясняя причины рекордного обесценивания белорусского рубля.

Что ж, у сильного всегда бессильный виноват. Стоит ли удивляться, если сходные объяснения звучат и сейчас, даже цифры называются такие же. Это нельзя не заметить, аналогии просто бросаются в глаза. Вот в сентябре 2013 года Александр Лукашенко предлагает ввести выездную пошлину для выезжающих за рубеж за покупками белорусов. При этом озвучивается уже знакомая мотивировка: «Нас критикуют — бедная, нищая страна, а наши люди до 3 миллиардов долларов в год вывозят за границу в Евросоюз и привозят товары, которые мы тоже выпускаем».

Через пару недель глава государства опять возвращается к любимой теме: «Я переживаю, что под 3 млрд. долларов валюты вывозится ежегодно из страны…Мы говорим о валюте, что есть проблема. Вы знаете, сколько наши мешочники-челночники вывозят валюты за пределы страны? Пограничники подсчитали — за $2 млрд. Если б это в стране оставалось, то мы бы жили совсем по-другому».




И наконец, недавно, уже в октябре, он снова озаботился покупками, которые делают белорусские граждане за рубежом: «Раньше это спекулянтами называли, а сейчас это бизнес. Этот бизнес оборачивается, что население в погоне за евросоюзовскими тряпками вывозит до 3 миллиардов оценочно долларов за пределы страны — в Литву, в Польшу. А они нас ещё критикуют — низшие, бедные белорусы такие-сякие».

В общем, если кто не понял, «бедным белорусам» лучше готовиться к повторению событий 2011 года. Их прямым текстом обвиняют в вывозе так необходимой казне валюты, а они всё равно не хотят исправляться. Подрывают экономику, сотрясают финансовые основы государства, упрямо игнорируют опасность новой разорительной девальвации. Разве с такими потребительскими настроениями можно ожидать, что белорусский рубль когда-нибудь станет свободно конвертируемой валютой?

Ожидать, действительно, не стоит, но совсем по другой причине. Эксперты давным-давно доказали, почему белорусскую экономику всё больше трясёт на финансовых ухабах. Всё дело в неграмотной экономической политике, а вовсе не в поведении нищающего населения, пытающегося отложить хоть немного долларов и евро на стремительно приближающийся чёрный день. В связи с этим особенно показателен интернет-материал «Кто на самом деле вывозит валюту за границу?» («Ежедневник» - 25.10.2013), где детально раскрывается истинная подоплёка финансово-экономических трудностей нашей страны.

Процитируем отрывок из него: «Главные потребители импорта в Беларуси — это не любители шопинга, а крупнейшие промышленные предприятия страны. Вопреки политике импортозамещения, многие из них в этом году увеличили закупки товаров и сырья за границей. Президент както обвинил народ в том, что тот покупает за границей слишком много импортных товаров и тем самым создаёт дефицит валюты. Однако статистика показывает, что главный потребитель импорта в стране — далеко не народ. Доля потребительских

*(Окончание на стр. 5)*

## КТО ВИНОВАТ В ТОМ, ЧТО ПУСТЕЮТ ВАЛЮТНЫЕ ЗАКРОМА?

*(Окончание. Нач. на стр. 4)*

товаров в импорте составляет только 16,5 %, тогда как так называемых промежуточных товаров (энергетическое сырьё, металлургия, крупная техника) — 70%. Больше половины покупок за границей приходится на долю крупных предприятий».

Скажем, заграничных товаров для транспортной отрасли в этом году понадобилось больше, чем в прошлом: «Было куплено в три раза больше грузовых автомобилей, увеличен импорт железнодорожных локомотивов и легковых автомобилей, куплено в полтора раза больше электродвигателей и генераторов». Или сельское хозяйство, которое, как ни удивительно, импортирует не менее успешно, чем экспортирует. За январь-август сельхозпредприятия увеличили заграничные покупки на 27%, уменьшив при этом экспорт на 2%. А строительная сфера, отдав за границу 156,5 млн. долларов, привезла в Беларусь только 25,3 миллиона.

Вот так то! Как после этого можно уверять людей, что некие спекулянты подорвали наше финансовое благополучие, вывозя валюту из страны? Но вопреки очевидному Александр Лукашенко видит корень бед не в порочной системе хозяйствования государства, а в действиях частных лиц. Если проанализировать его высказывания, то заметно, что Лукашенко до сего дня находится в плену догм и мифов советского политпросвещения. Для него частник — это чуть ли не синоним проходимца и бесчестного человека. За соответствующими примерами далеко ходить не надо: «Если люди не хотят этих частников и всяких жуликов, которые готовы там поживиться, значит, они должны обслуживаться государством» (ноябрь 2012). «Мы уже наелись частников. Хорошие они люди, но смотрят в свой карман» (февраль 2013). «Я уже наелся этих частников! Только одно — прибыль схватить и куда-нибудь спрятать подальше» (октябрь 2013).

Но рассуждать подобным образом, значит сознательно отрицать огромную пользу, которую приносит обществу этот так неуважаемый президентом частник. Ведь сегодня на Могилёвщине треть поступлений в бюджет формируется предпринимательскими структурами! По данным mogilevnews.by, в Горецком районе данный показатель достиг уровня в 40,7%, в Быховском — 34,4%, в Бобруйском — 33,2%, в городах Бобруйске и Могилёве — 40,6% и 31,3% соответственно. В Климовичском районе за 9 месяцев 2013 года «частный бизнес отчислил в районный бюджет 8,9 млрд. руб. Для примера, отчисления ликеро-водочного завода составили 6,3 млрд. рублей» (районная газета «Родная ніва» - 19.10.2013)



Согласно официальным сведениям, на Могилёвщине на начало года в сфере малого и среднего предпринимательства было занято более 120 тысяч человек, а это 24% в общей численности занятых в экономике области. Все эти люди вносят весомый вклад в материальное и финансовое богатство страны. И не их вина, что нынешние правители не умеют правильно распорядиться народным достоянием. Обвиняя частников и всех остальных белорусских граждан в назревших проблемах, как бы не договориться до того, что народному президенту не повезло с народом.

***Тимур НЕЗВАНОВ***

## У МАГІЛЁВЕ ХУЛІГАНЫ ЗБІЛІ ПАЛКАЙ МІЛІЦЫЯНТА

***Аператыўныя супрацоўнікі крымінальнага вышуку выкарысталі табельную зброю, каб супакоіць натоўп.***

Яны зрабілі дзевяць папераджальных стрэлаў і тры прыцэльных.

Як паведамляе “Интерфакс-Запад”, здарэнне адбылося ўначы ў суботу, 2 лістапада. Двое супрацоўнікаў Ленінскага РАУС Магілёва (26 і 29 гадоў) праводзілі “прафілактычныя мерапрыемствы” ў раёне гаражна-будаўнічага кааператыва. Там яны заўважылі натоўп людзей, якія біліся паміж сабой.

Міліцыянты падышлі да натоўпа, прадставіліся і запатрабавалі спыніць бойку. Аднак у адказ ім пачалі пагражаць. Двое зламыснікаў нават напалі на аднаго з праваахоўнікаў і збілі яго палкай.

Аператыўнікам давялося страляць, спачатку ў паветра, пасля — прыцэльна. Неўзабаве на месца прыехалі супрацоўнікі АМАПу, якія затрымалі хуліганаў.

“У выніку з дыягназам “чэрапна-мазгавая траўма” у бальніцу быў дастаўлены супрацоўнік крымінальнага вышуку, а таксама з агнястрэльнымі раненнямі сцёгнаў, галёнкаступнёвага сустава, пахвіннай вобласці і алкагольным ап’яненнем — двое мясцовых жыхароў (1985-га і 1986 г. н.), якія нападалі. Зараз іх жыццю нічога не пагражае. У медустановах, дзе знаходзяцца пацярпелыя ўдзельнікі інцыдэнту, выстаўлены пост аховы”, — праінфармавалі ў МУС.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# СТАРАЯ ПЕСНЯ НА НОВЫ ЛАД

***22 кастрычніка 2013 года на паседжанні Прызідыума Савета Міністраў РБ міністр эканомікі М.Снапкоў заявіў, што ў 2014 годзе плануецца ўзняццё ўзроўня пакрыцця насельніцтвам страт на жыллёва-камунальныя паслугі да 50%.***

Меры па пераходу на аплату насельніцтвам 100% страт на камунальныя паслугі беларускім кіраўніцтвам прымаліся і шмат год таму. Яшчэ **Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь №943 ад 14 ліпеня 2003 году "Аб Канцэпцыі развіцця жыллёва-камунальнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь да 2015 года"** планавалася завяршыць, у асноўным, перавод ЖКГ на работу ў рэжыме безстратнага функцыянавання з улікам пераходу на поўную аплату насельніцтвам страт на ўтрыманне і рамонт жылых памяшканняў, камунальных паслугаў пры забяспячэнні адраснай сацыяльнай абароны насельніцтва

Ужо ў 2000-2005 гадах рост тарыфаў для насельніцтва на жыллёва-камунальныя паслугі яўна апярэджваў агульны паказчык інфляцыі. Пры росце спажывецкіх коштаў за 2000-2005 гады ў **6,1 разы**, тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі, уключаючы электра- і газазабяспячэнне, павялічыліся ў **50,7 разоў**. Найбольш хуткімі тэмпамі раслі тарыфы на ацяпленне, тэхнічнае абслугоўванне жылфонда, электразабяспячэнне.

У выніку ўзровень пакрыцця плацяжамі насельніцтва страт на прадастаўленыя жыллёва-камунальныя паслугі, акрамя электра- і газазабяспячэння, для стандартнай двухпакаёўкі, згодна статыстычных дадзеных, узрос з 12% у 2000 годзе да 42,4% у 2005.

Разам з тым доля жыллёва-камунальных паслугаў у спажывецкіх расходах насельніцтва ўзрасла з 3% да 9,1%.

Падобнай практыкі ў сферы ЖКГ беларускія ўлады прытрымліваліся і ў наступнай пяцігодцы. Згодна **Пастановы Савета Міністраў РБ №720 ад 7 чэрвеня 2006 года аб "Праграме развіцця жыллёва-камунальнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь на 2006-2010 гады"**, адным з прыярытэтных накірункаў рэфармавання і развіцця




жыллёвай гаспадаркі краіны на гэтыя гады станавілася павышэнне ўзроўню пакрыцця тарыфамі страт на прадастаўленне паслуг для насельніцтва шляхам збліжэння тарыфаў з сабекоштам па рэгулюемых паслугах.

Зноўку кошты на разнастайныя камунальныя паслугі для насельніцтва, уключаючы электра- і газазабяспячэнне, узраслі за гэтыя гады ў дзесяткі разоў.

Але, нягледзечы на гэта, згодна разлікаў Міністэрства ЖКГ РБ і статыстычных дадзеных, узровень пакрыцця насельніцтвам страт за аказаныя жыллёва-камунальныя паслугі ў 2010 годзе склаў 24,2%, а ў 2012 годзе ўсяго толькі 15,3%.

І як заявіў 28 чэрвеня 2013 года ў час прамой лініі ў газеце "Звязда" міністр ЖКГ Андрэй Шорэц, у сярэдзіне бягучага года насельніцтва нашай краіны аплочвала ўсяго толькі 16,3% затрат на аказанне жыллёва-камунальных паслуг, што, па ягоных словах, адпавядае 2,8% дахода сям'і з чатырох чалавек пры двух працуючых.

Падобная заява міністра пайшла нават у разрэз са словамі А.Лукашэнкі, які ў красавіку 2013 года, даючы даручэнне старшыні КДК А.Якабсону разабрацца з парадкам фармавання сабекошту паслугаў ЖКГ, сцвярджаў, што насельніцтва ўжо зараз аплочвае больш 60% затрат на аказанне жыллёва-камунальных паслугаў.

І, як дакладваў старшыня КДК 25 ліпеня 2013 года згодна даручэння кіраўніка краіны, сапраўды, у сістэме жыллёва-камунальнай гаспадаркі маюцца шэраг сур'ёзных праблемаў, якія не ўкладваюцца ў дырэктыўныя дакументы, звязаныя з рэсурса- і энэргазберажэннем. Павелічэнні сабекошту работ у выніку кладуцца на тарыфы.

Узнікае пытанне, дык што ж такое дзеецца ў сістэме ЖКГ? Хто з прадстаўнікоў кіраўніцтва краіны дасць адказ грамадзянам?

Хто можа адказаць, чаму згодна Пастановы Савета Міністраў РБ №97 ад 8 лютага 2013 года раптам прызнана страціўшай сілу даўняя **Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь №943 ад 14 ліпеня 2003 году "Аб Канцэпцыі развіцця жыллёва-камунальнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь да 2015 года",** згодна якой усе гэтыя 10 год прымаліся разнастайныя праграмы развіцця і рэфармавання ЖКГ краіны, пад гэтыя праграмы выдзяляліся і асвойваліся кожны год аграмадныя фінансавыя сродкі з дзяржаўнага бюджэту, сфармаванага грамадзянамі краіны, адпавядаючыя мільярдам доляраў ЗША?

*(Заканчэнне на стар. 7)*

# СТАРАЯ ПЕСНЯ НА НОВЫ ЛАД

*(Заканч. Пачатак на стар. 6)*

А адказ вельмі просты. Выкананне запланаваных на гэтыя гады разнастайных праграм, якія прадугледжвалі павелічэнне эфектыўнасці працы ўсёй галіны і павышэнне якасці камунальных паслугаў, проста правалены. Сродкі, выдзяляемыя ўсе гэтыя гады на рэфармаванне і развіццё ЖКГ былі, мягка кажучы, патрачаны “неэфектыўна”, і ляглі велізарным цяжарам на тарыфы.

Праваліўшы ўсе свае папярэднія Пастановы і Праграмы Урад краіны імкнецца ў плане фармавання тарыфаў ЖКГ распачаць з белага ліста, зноўку пераклаўшы ўсе хібы ў сваёй дзейнасці на плечы грамадзянаў.

Для выхаду на ўзровень пакрыцця насельніцтвам у 2014 годзе 50% страт на камунальныя паслугі, з улікам інфляцыйных працэсаў, кошты на паслугі ЖКГ адносна бягучага часу прыйдзецца павялічваць у 4-5 раз. Але, як паказвае досвед мінулых гадоў, гэта не значыць, што пры павелічэнні тарыфаў для насельніцтва ў 4-5 раз, Ураду ўдасца дасягнуць узроўня пакрыцця насельніцтвам 50% страт. Хутчэй за ўсё гэты паказчык будзе зноўку правалены.

Ведучы гаворку аб тарыфах для насельніцтва і аб узроўні пакрыцця страт на жыллёва-камунальныя паслугі дзяржавай з бюджэту (да 84,7%), кіраўніцтва Беларусі рэгулярна прыпадносіць гэта грамадзянам як сваю заслугу, забываючы пры гэтым, што бюджэт краіны фармуецца тымі ж самымі грамадзянамі.Праз падаткі насельніцтва, як яўныя, так і прыхаваныя, падаткі прадпрыемстваў, на якіх працуюць нашыя грамадзяне, іншыя разнастайныя плацяжы. А вось у плане карыстання бюджэтнымі сродкамі, пры такім узроўні пакрыцця страт з дзяржаўнага бюджэту, складваецца парадаксальная сітуацыя. У больш выйграшным становішчы знаходзяцца багатыя грамадзяне краіны, маючыя ва ўласнасці або карыстанні кватэры з вялікімі жыллёвымі плошчамі, падключаныя да камунальных выгод. Зразумела, што ў гэты разрад уваходзіць і шматлікая армія чыноўнікаў, у тым ліку і тыя, што прымаюць рашэнні па рэфармаванню сферы ЖКГ.




І, што самае парадаксальнае, найменш сродкаў з бюджэту на пакрыццё сабекоштаў камунальных паслугаў такім чынам атрымліваюць бяднейшыя слаі насельніцтва, сацыяльна найменш абароненыя, тыя, хто жыве ў маленькіх кватэрах, у сваіх прыватных дамах, непадключаных да камунальных выгод, асабліва – ў сельскай мясцовасці.

Дзеля паспяховага выканання свайго рашэння аб павелічэнні ўзроўню пакрыцця насельніцтвам затрат на паслугі жыллёва-камунальнай гаспадаркі, Ураду краіны неабходна тэрмінова аднавіць рэфармаванне ЖКГ згодна Канцэпцыі 2003 года, што значна павысіць эфектыўнасць галіны. І надалей, праз фонды заработнай платы, праз сацыяльныя фонды, размеркаваць бюджэтныя сродкі, скіроўваемыя прадпрыемствам ЖКГ на пакрыццё страт, сярод насельніцтва краіны, каб грамадзяне самі цалкам вызначаліся з аплатай камунальных паслугаў. Дадзены крок дазволіць узняць узровень пакрыцця насельніцтвам выдаткаў за аказаныя жыллёва-камунальныя паслугі да 100% і прымусіць прадпрыемствы жыллёва-камунальнай гаспадаркі эфектыўна выкарыстоўваць атрыманыя ад грамадзян сродкі.

***Намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў***

## У БЯЛЫНІЧАХ ЛІКВІДАВАЛІ МІНІ-РЫНАК

***Бялыніцкія камунальнікі ліквідавалі міні-рынак, які шмат гадоў існаваў у гарадскім пасёлку на вуліцы Калініна, паблізу ад яе скрыжавання з вуліцай Ленінскай.***

Па словах супрацоўнікаў жылкамгасу, адпаведны загад аддаў новы старшыня Бялыніцкага райвыканкама Мікалай Кадаценка.

Не зразумела, чым перашкодзілі кіраўніку Бялыніцкага раёна прадпрымальнікі і бабулькі, якія прадавалі на міні-рынку разнастайную сельскагаспадарчую прадукцыю ўласнай вытворчасці. Адпаведны парадак на сваіх “працоўных” местах яны захоўвалі заўсёды, эстэтычнага выгляду гарадскога пасёлка міні-рынак таксама не псаваў.

Затое зараз узнікла шэраг нязручнасцей для простых бялынічан, якія ўжо не могуць набыць патрэбныя ім тавары з уласных падворкаў па дарозе з працы на абед, альбо пасля заканчэння працоўнага дня. Пазбавіліся невялікіх дадатковых даходаў да сваёй пенсіі і бялыніцкія пенсіянеры, якія прадавалі сваю прадукцыю ў зручным месцы на вуліцы Калініна.

*(Заканчэнне на стар. 8)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# НАШ НОВЫ СТАРШЫНЯ

***25 кастрычніка пазачарговая сесія Бялыніцкага раённага Савета дэпутатаў зацвердзіла на пасадзе старшыні Бялыніцкага райвыканкама Мікалая Міхайлавіча Кадаценка.***

Неабходна адзначыць, што фактычна гэтая сесія была чыстай фармальнасцю, бо папярэдне, 22 кастрычніка, кандыдатуру Мікалая Кадаценкі на пасаду старшыні Бялыніцкага райвыканкама ўзгадніў кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка. Хацеў бы я пабачыць у Бялынічах таго дэпутата,які б асмеліўся пярэчыць Аляксандру Рыгоравічу…

Хацелася б таксама нагадаць, што газета “Паходня” яшчэ некалькі месяцаў таму паведаміла, хто зойме крэсла Аляксандра Вароніна ў бялыніцкім “Белым доме”. Шаноўныя чытачы самі могуць пераканацца, што нашы крыніцы даюць дакладную інфармацыю.

Крыху распавядзём чытачам “Паходні” пра біяграфію Мікалая Міхайлавіча. Мікалай Кадаценка нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Батаева Хоцімскага раёна. Працоўную дзейнасць пачаў у 1979 годзе шафёрам калгаса “Прагрэс” Хоцімскага раёна. У 1981-1983 гадах служыў у Савецкай Армія, пасля службы ў войску паступіў вучыцца ў Рослаўльскі саўгас-тэхнікум Смаленскай вобласці. Закончыўшы навучанне ў тэхнікуме, працаваў у калгасе “Прагрэс” Хоцімскага раёна загадчыкам майстэрні, брыгадзірам трактарна-паляводчай брыгады, намеснікам старшыні, а з 1995 па 1998 гады – узначальваў гэту гаспадарку.

Паралельна з працай, Мікалай Міхайлавіч не забываўся падвышаць свой прафесійны ўзровень. У 1995 годзе ён скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію па спецыяльнасці “эканоміка і кіраванне ў галінах АПК”, а ў 2008-м – Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь па спецыяльнасці “дзяржаўнае і мясцовае кіраванне”.

У 1998 годзе Мікалай Кадаценка быў прызначаны на пасаду намесніка старшыні Клімавіцкага райвыканкама, а з 1999 да 2005 года Мікалай Міхайлавіч працаваў першым намеснікам старшыні Клімавіцкага райвыканкама, начальнікам упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання.

Дарэчы, нагадаю паважаным чытачам, што якраз у гэты час Клімавіцкі райвыканкам узначальваў іншы вядомы ў Бялыніцкім раёне чалавек – Уладзімір Вінідзіктавіч Канавалаў. Праўда, пасля пераходу на працу ў аблхарчпрам ён у 2005 годзе быў прыгавораны Гомельскім абласным судом да 4 гадоў пазбаўлення волі за перавышэнне службовых паўнамоцтваў якраз за сваю працу кіраўніком Клімавіцкага раёна. Пасля датэрміновага вызвалення Уладзімір Канавалаў быў прызначаны дырэктарам адной з лепшых (і багацейшых) гаспадарак Бялыніцкага раёна – ААТ “Новая Друць”. З канца траўня гэтага года Уладзімір Вінідзіктавіч працуе намеснікам дырэктара гэтай гаспадаркі.

Апошнія восем год да прызначэння на пасаду старшыні Бялыніцкага райвыканкам Мікалай Кадаценка працаваў старшынёй Чэрыкаўскага райвыканкама. Неабходна адзначыць, што ўсе гэтыя гады Чэрыкаўскі раён знаходзіўся на перадавых пазіцыях у нашай краіне па ўзроўню добраўпарадкавання. На жаль, гэтага нельга сказаць пра эканамічныя паказчыкі і ўзровень заработнай платы ў Чэрыкаўскім раёне…

З першых дзён пасля прызначэння на пасаду старшыні Бялыніцкага райвыканкама Мікалай Кадаценка актыўна ўключыўся ў працу на новым месцы. Па словах супрацоўнікаў Бялыніцкага райвыканкама, новы старшыня параіў ім усім набыць гумавыя боты, каб лепш было працаваць на жывёлагадоўчых фермах раёна і займацца добраўпарадкаваннем яго тэрыторыі. Стыль кіравання Мікалая Міхайлавіча паспелі адчуць і кіраўнікі прадпрыемстваў і арганізацый Бялыніцкага раёна, якія атрымалі загад на безумоўнае выкананне ўсіх прагнозных паказчыкаў, а таксама набыць фарбу, косы і, закасаўшы рукавы, узяцца за навядзенне парадку.

Па чутках, Мікалай Міхайлавіч таксама параіў шукаць новую працу альбо сыходзіць на пенсію некаторым адказным асобам, якія дасягнулі пенсійнага ўзросту, аднак працягваюць займаць кіруючыя пасады.

Згодна традыцыі, у першыя 100 дзён пасля прызначэння, новым кіраўнікам вялікіх заўваг па іх працы не робіцца. Таму журналісты газеты “Паходня” зычуць попехаў Мікалаю Міхайлавічу Кадаценка ў працы на пасадзе старшыні Бялыніцкага райвыканкама на карысць насельніцтва нашага раёна.

***Іван Барысаў***

## У БЯЛЫНІЧАХ ЛІКВІДАВАЛІ МІНІ-РЫНАК

*(Заканчэнне. Пач. на стар. 7)*

Неабходна адзначыць, што мінірынкі, дзе людзі могуць прадаць прадукцыю ўласнай прысядзібнай гаспадаркі, існуюць у большасці раённых і абласных цэнтраў нашай краіны, там яны чамусьці перашкод для мясцовых уладаў не ствараюць.

Безумоўна, у Бялынічах ёсць гарадскі рынак на вуліцы Савецкай, аднак наведваюць яго не так шмат людзей, бо знаходзіцца ён даволі далёка ад цэнтра гарадскога пасёлка.

Але чаму тут здзіўляцца, у нашай краіне, якую яе кіраўніцтва пазіцыянуе, як дзяржаву для народа, на сам рэч пра інтарэсы і патрэбы простых людзей звычайна ўзгадваюць толькі напярэдадні чарговых выбараў…

***Вераніка Бялова***

Усе нумары газеты “Паходня” можна прачытаць у інтэрнэце па адрасе: http://kamunikat.org/pachodnia.html

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 06.11. 2013 г. у 12-00.